, злучайцеся!




# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на $^1/_2$ г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 17 (91) | 1 жніўня 1930 г. | № 17 (91)


## ЗЬМЕСТ.



## Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР.

### Паст. 144. Пра парадак збору, хаваньня і здачы сум сельскагаспадарчага падатку 1930/31 г. і справаздачу па гэтаму падатку.

#### I. Парадак прыманьня с.-г. падатку.

§ 1. Платнікі с.-г. падатку, апроч саўгасаў і гаспадарак розных установ і арганізацый, могуць уплачваць яго ў наступныя пункты:

1) у сельскі савет па месцу знаходжаньня гаспадаркі платніка;

2) у раённы выканаўчы камітэт;

3) ва ўсе ўстановы і касы Дзяржбанку;

4) ва ўсе тыя дзяржаўныя ашчадкасы, укладчыкам якіх зьяўляецца платнік;

5) ва ўсе тыя крэдытныя ўстановы, праз якія выконваецца мясцовы бюджэт данага сельсавету альбо раёну;

6) ва ўсе паштовыя ўстановы.

Установы Дзяржбанку і пошты і ашчадкасы прымаюць с.-г. падатак незалежна ад таго, дзе знаходзіцца гаспадарка і дзе жыве платнік.

§ 2. Саўгасы і гаспадаркі ўстаноў і арганізацый плацяць с.-г. падатак толькі праз установы Дзяржбанку альбо праз пошту.

§ 3. Паказаныя ў § 1 установы павінны прымаць кожную суму с.-г. падатку, хоць-бы яна была і менш належнай раты.

§ 4. С.-г. падатак можна плаціць грашыма і аблігацыямі наступных дзяржпазык па азначанай на іх цане:

1) 2-й сялянскай выйгрышнай пазыкі 1925 г.

2) 3-й сялянскай выйгрышнай пазыкі 1926 г.

3) Тымі купонамі ад аблігацый гэтых пазык, па якіх надышоў тэрмін выплаты.

§ 5. Сельсаветам забараняецца прымаць аблігацыі на суму больш тэй, якая выплачваецца, і даваць здачу з іх грашыма. Гэта могуць рабіць толькі ўстановы Дзяржбанку.

§. 6. За выключэньнем выплаты праз пошту, с.-г. падатак здаецца і прымаецца пры акладных лістох платнікаў.

Установы банку могуць прымаць яго і без акладных лістоў, а на падставе плацёжных аб'яў, паводле касавых правіл.

§ 7. Пра выплату падатку сельсаветы, райвыканкомы, установы банку і іншыя крэдытныя ўстановы робяць адзнаку ў акладным лісьце, а пошта выдае толькі квітанцыю.

§ 8. Атрымаўшы непасрэдна ад платніка пляцяжы с.-г. падатку, касавыя ўстановы павінны не пазьней як на другі дзень паведаміць аб гэтым належны с/савет паводле наступнай формы:

У сельсавет .................... раёну .................... акругі.

.................... паведамляе пра паступіўшыя плацяжы с/г. падатку 1930/31 г.

| Калі паступіў плацеж | | Паселішча, дзе знаходзіцца гаспадарка платніка | № акладнога ліста | Прозьвішча, імя і імя па бацьку. | Атрымана | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| М-ц | Дзень | | | | Акладу 30/31 г. | Нядоімкі | Пені | Штрафу | Разам |
| | | | | | | | | | |

§ 9. С.-г. падатак можна плаціць калектыўна, праз упаўнаважанага саміх платнікаў, які і адказвае перад імі за правільную і своечасовую здачу давераных яму сум. У гэтым выпадку за дзень выплаты с.-г. падатку лічыцца дзень, калі ўпаўнаважаны платнікаў здаў сумы с.-г. падатку ў сельсавет або ў касавую ўстанову.



§. 10. Пры калектыўнай выплаце платнікі складаюць калектыўны сьпіс у 2-х экзэмплярах, паводле наступнай формы:

СЬПІС

гаспадарак вёскі .......... сельсавету .......... раёну, якія калектыўна ўносяць с.-г. падатак праз грамадзяніна ..........
(Прозьвішча, імя і імя па бацьку).

Разам за ўсе гаспадаркі ўносіцца .......... 193 .. г.
(Месяц і дзень)

.......... р. ..... к.

| Прозьвішча, імя і імя па бацьку | № акладнога ліста | Колькі ўносіцца | | Адзнакі касы |
|---|---|---|---|---|
| | | Руб. | Кап. | |
| | | | | |

§ 11. Да калектыўнага сьпісу прыкладаюцца акладныя лісты ўсіх платнікаў, якія паказаны ў сьпісе.

На падставе гэтых лістоў установы, якія прымаюць с.-г. падатак, разьбіваюць уносы кожнага платніка на аклад, нядоімку і пеню. Гэтая разьбіўка робіцца на 2-х экзэмплярах сьпісу і ў кожным акладным лісьце. Адзнакі ў акладным лісьце падпісвае старшыня сельсавету, а ў іншых установах—касір і рахунковы працаўнік. Адзін экзэмпляр сьпісу і ўсе акладныя лісты зварочваюцца ўпаўнаважанаму платнікаў. Другі экзэмпляр сьпісу застаецца ва ўстанове, якая прыняла падатак.

§ 12. Укладчыкі ўсіх ашчадных кас, апроч ашчадкас, арганізаваных па лініі чыгуначнага транспарту, могуць выплачваць с.-г. падатак праз гэтыя касы.

§ 13. Атрымаўшы суму с.-г. падатку, ашчадкаса робіць аб гэтым адзнаку ў акладным лісьце, прычым уся сума, без разьбіўкі на аклад, нядоімку і пеню, прастаўляецца ў графы, якія прызначаны для адзнак пра паступленьне падатку па тэрмінах. Адзнака касы аб прыёме грошай падпісваецца ашчадкасай і прыкладаецца пячатка апошняй.

§ 14. Пра атрыманыя сумы с.-г. падатку ашчадкаса паведамляе адпаведны сельсавет, як паказана ў § 8. Сельсавет разбівае гэтыя сумы на аклад, нядоімку і пеню і робіць адпаведныя адзнакі ў асабістых рахунках платнікаў на адвароце карткі ф. № 19. Гэта робіцца пасьля падачы палатнікам акладнога ліста, які можна падаць у любы час, але не пазьней 30/IV-31 г. Адзнакі сельсавету ў акладным лісьце з разьмеркаваньнем сумы на аклад, нядоімку і пеню замяняюць раней зробленыя адзнакі ашчадкасы і апошнія закасоўваюцца з адпаведнай агаворкай у лісьце.

§ 15. Платнікі маюць права здаваць належныя з іх сумы с.-г. падатку праз установы і агэнтаў пошты, а таксама праз сельскіх лістаносцаў. У гэтым выпадку прымаюцца толькі грошы пераводам у адрас адпаведнага сельсавету.

§ 16. На прынятыя поштай сумы с.-г. падатку выдаецца звычайная квітанцыя з адзнакай „с.-г. падатак"—і на адвароце яе за подпісам пошты паказваецца прозьвішча, імя і імя па бацьку платніка і дзень здачы сум, якія лічыцца за дзень выплаты с.-г. падатку. Расьпіска пошты—бясспрэчны дакумэнт пра ўплату с.-г. падатку.

### II. Нядоімкі па с/г. падатку.

§ 17 Пасьля сканчэньня кожнага тэрміну выплаты с.-г. падатку, аклад яго, які не заплачан, пералічаецца ў нядоімку і на яе налічваецца пеня, паводле Палажэньня пра спагнаньне падаткаў. Пеня налічваецца на поўныя рублі нядоімкі, прычым 50 і больш кап. лічыцца за рубель, а сумы менш 50 кап. пры вылічэньні пені ня лічацца.

§ 18. Калі, апроч нядоімкі, за платнікам лічыцца і штраф, дык ён пагашаецца пасьля нядоімкі.

§ 19. Пеню налічае сельсавет, установа банку або касавая ўстанова пры прыёме нядоімак.

§ 20. Калі нядоімка і пеня за яе ня ўнесены дабравольна, дык іх спаганяюць прымусовымі мерамі, г. зн. праз опіс і продаж маемасьці.

§ 21. Пры падзеле гаспадаркі, за якой ёсьць нядоімка, яе павінна заплаціць тая гаспадарка, якая ўзяла адпаведны абавязак паводле акту падзелу, а калі ў акце гэта ня вызначана, дык нядоімку плаціць гаспадарка, унесеная ў сьпіс нядоімшчыкаў.

§ 22. Калі нядоімшчык выехаў, ня знойдзен і не засталося маемасьці, з якой можна спагнаць нядоімку, дык райвыканком можа сьпісаць яе як безнадзейную.

§ 23. Райвыканком мае права аўтаматычна зьняць нядоімку с.-г. падатку і пеню:

а) з маламоцных гаспадарак, вызваленых сёлета паводле неабкладаемага мінімуму даходаў ці паводле пастаноў райпадатковай камісіі па маламоцнасьці;

б) па іншых гаспадарках, калі будзе ўстаноўлена адсутнасьць у іх маемасьці, з якой можна спагнаць нядоімку і пеню;

в) калі сума нядоімкі ня больш рубля і выдаткі па спагнаньню не апраўдваюцца сумай нядоімкі.

§ 24. Райпадатковая камісія можа зьняць нядоімку і пеню (за выключэньнем гаспадарак, абкладзеных індывідуальна) у наступных выпадках:

а) калі гаспадарка пацярпела ад навальных бядот;

б) у іншых выпадках неплацежаздольнасьці, калі знойдзе патрэбным, пры гэтым асаблівую ўвагу трэба зварочваць на гаспадаркі чырвонаармейцаў, інвалідаў вайны і працы, бывшых чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызанаў.

### III. Зварот пераплат с.-г. падатку.

§ 25. Пераплачаныя або няправільна спагнаныя сумы с.-г. падатку зварочваюцца платніку, або са згоды яго залічаюцца на выплату с.-г. падатку будучага году.

Пераплаты не зварочваюцца, калі за платнікам ёсьць нядоімка па іншых плацяжох (страхоўка, самаабкладаньне і інш.) і залічаецца

на выплату іх. У гэтым выпадку пераплата выпісваецца ў расход па с.-г. падатку, і адначасова запісваецца на прыход па адпаведным плацяжы. Выплата с.-г. падатку раней тэрміну ня лічыцца за пераплату.

§ 26. Пераплаты зварочвае сельсавет непасрэдна, або даручае зрабіць гэта касавай установе, якая выконвае яго бюджэт. Атрымаўшы паведамленьне райпадатковай камісіі пра зьнятыя з гаспадаркі сумы падатку, сельсавет правярае па асабістых рахунках заплачаныя сумы і, калі ёсьць пераплаты, паведамляе аб гэтым платніка.

§ 27. Пры звароце пераплат зварочваецца і пеня (калі яна спаганялася) у частцы, якая адпавядае пераплаце.

§ 28. Саўгасам і розным установам пераплаты зварочвае банк, паводле касавых правіл, на падставе паведамленьня РВК.

§ 29. Пераплаты зварочваюцца з налічных паступленьняў с.-г. падатку і ў адпаведных частках адносяцца на дзяржаўны і мясцовы бюджэт.

§ 30. Сельсавет зварочвае пераплату, або дае даручэньне пра зварот яе пад расьпіску платніка на паведамленьні, якое ён атрымаў пра пераплату. Паведамленьне з расьпіскай застаецца ў сельсавеце як апраўдальны дакумант. Аб звароце пераплаты азначаецца ў асабістым рахунку платніка.

§ 31. Пераплаты залічваюцца на выплату будучага с.-г. падатку на падставе заявы платніка. Тады ў асабістым рахунку бяг. году робіцца адзнака пра суму, якую трэба залічыць і платніку выдаецца адпаведнае паведамленьне сельсавету. Гэтае паведамленьне прымаецца ў наступных гадох як падстава для залічэньня пераплаты і пры гэтым адбіраецца сельсаветам у платніка і робіцца надпіс: „пагашана“, адзначаецца месяц, дзень, год і падпісваецца.

### IV. Падлік паступленьняў с.-г. падатку.

§ 32. Пляцяжы с.-г. падатку, прынятыя сельсаветам, або паступіўшыя ў сельсавет пераводам, запісваюцца ў асобныя рэестры паступленьняў с.-г. падатку. Рэестры зьяўляюцца асновай для запісу паступленьняў с.-г. падатку па кнігах і па асабістых рахунках. Рэестр заводзіцца асобны на кожны дзень прыёму с.-г. падатку і вядзецца ў 2-х экзэмплярах.

§ 33. Пасьля сканчэньня аперацыйнага дня падбіваюцца вынікі паступленьняў па рэестру па абодвых экзэмплярах і зьвяраюцца з касавою гатоўкаю. Правераны рэестр у абодвых экзэмплярах падпісваецца старшынёй і сакратаром сельсавету і агульная сума паступленьняў запісваецца ў касавую кнігу сельсавету, як прыход с.-г. падатку.

§ 34. Прынятыя сельсаветам сумы с.-г. падатку і абодвы экзэмпляры рэестраў прадстаўляюцца ў тую касавую ўстанову, да якой даны сельсавет прымацаваны для здачы сум с.-г. падатку. Гэтая ўстанова, а таксама тэрміны здачы грошай (ня менш 1 разу ў тыдзень) вызначаюцца РВК па ўзгадненьні з АВК, выходзячы з мясцовых умоў. Каса зьвярае здаваемыя сумы з рэестрам, адзін экзэмпляр апошняга пакідае сабе, а другі, з расьпіскай аб прыёме грошай, зварочвае яго сельсавету, які хавае гэты экзэмпляр як грашовы дакумэнт.

§ 35. Сельсаветы, якія маюць самастойны бюджэт, перадаюць касавым установам сумы с.-г. падатку, прынятыя імі, за выключэньнем установленых адлічэньняў у мясцовы бюджэт.

Касы райвыканкомаў і іншыя ўстановы, якія праводзяць касавае выкананьне мясцовых бюджэтаў, перадаюць прынятыя імі сумы с.-г.

падатку на рахункі Дзяржбанку, як гэта ўстаноўлена правіламі перадачы дзярждаходаў.

§ 36. Асабісты рахунак кожнага платніка па с.-г. падатку вядзецца на адвароце карткі ф. № 1-а па с.-г. падатку, а па калгасах—на адвароце карткі ф. № 1-б, (якія ёсьць у сельсавеце). Асновай для вядзеньня асабістых рахункаў зьяўляюцца рэестры сельсавету і паведамленьні пра прыём грошай іншымі касавымі ўстановамі.

§ 37. Дапрылічаныя ці зьнятыя сумы с.-г. падатку адзначаюцца ў адпаведным радку асабістага рахунку на падставе паведамленьня РВК. Пасьля разьнясеньня па асабістых рахунках сум, паказаных у рэестрах і паведамленьнях, на іх робіцца адзнака: „занесена ў асабістыя рахункі“.

§ 38. Сума с.-г. падатку, незаплачаная па адным тэрміну, не пераносіцца на наступны тэрмін, а застаецца на рахунку данага тэрміну. Адзнакі пра выплату гэтай нядоімкі робяцца такім самым парадкам, як і сваечасовыя плацяжы.

§ 39. Райвыканкомы вядуць падлік паступленьняў с.-г. падатку па сельсаветах.

## V. Справаздача пра ход паступленьняў с.-г. падатку.

§ 40. Не пазьней 2-га, 12-га і 22 дня кожнага месяца сельсавет падае ў РВК па тэлефону, або праз нарачнага весткі аб паступленьні с.-г. падатку на 1, 11 і 21 дзень гэтага м-ца па наступнай форме:

Першага верасьня акладу 000, нядоімкі 000, пені 000. Разам 000 калгасах 000, кулацкіх 000.

Весткі даюцца нарастаючым ітогам з пачатку кампаніі, прычым першыя чатыры лічбы (акладу, нядоімкі, пені і разам) даюцца па ўсіх гаспадарках, уключаючы калгасы і кулакоў. Апошнія-ж 2 лічбы адзначаюць плацяжы асобна калгасаў і асобна кулацкіх гаспадарак.

Паступіўшыя штрафы ўключаюцца ў адну суму з пеняй.

§ 41. Сельсаветы ўключаюць ў свае справаздачныя весткі толькі тыя сумы с.-г. падатку, якія паступілі ў касы сельсаветаў непасрэдна або праз пошту і ня ўключаюць сум, якія зданы платнікамі непасрэдна ў іншыя касавыя ўстановы. Яны паведамляюць аб паступіўшых да іх сумах РВК непасрэдна ў тэрміны, паказаныя ў § 40.

§ 42. Установы Дзяржбанку непасрэдна паведамляюць акрфінаддзелы пра сумы с.-г. падатку, якія непасрэдна прыняты імі і падпарадкаванымі ім ашчадкасамі. Райвыканкомы-ж падаюць у акрфінаддзел справаздачу пра сумы с.-г. падатку, якія паступілі ў касы РВК, сельсаветаў і іншых касавых установаў раёну (апроч Дзяржбанку і кас ашчаднасьці) непасрэдна або праз пошту. Справаздача ў акрфінаддзел падаецца па форме, якая паказана ў § 40, і ў тэрміны, якія вызначае акрфінаддзел, але з тым, каб апошні даслаў адпаведную тэлеграфную справаздачу ў НКФ БССР: па становішчу на 1-е—не пазьней 6-га, па становішчу—на 11-е—не пазьней 16-га і па становішчу на 21-е—не пазьней 26-га кожнага месяца.

## VI. Падлік і справаздача па хадайніцтвах, скаргах і льготах.

§ 43. Усе скаргі і хадайніцтвы па сельгаспадатку, якія падаюцца ў раённы выканаўчы камітэт, запісваюцца фінчасткай на асобныя карткі па ф. № 10. Карткі запаўняюцца на кожнага паасобнага платніка.

Пастановы па ф. № 10 запаўняюцца пад капірку ў двох экзэмплярах. У журнал рэгістрацыі папер хадайніцтвы і скаргі не запісваюцца.

§ 44. У пастанове па ф. № 10 запісваецца:

1) калі паступіла скарга або хадайніцтва (год, месяц і дзень);

2) парадкавы нумар паступленьня скаргі або хадайніцтва;

3) кароткі зьмест скаргі або хадайніцтва;

4) прозьвішча, імя і імя па бацьку скаргніка, нумар яго па падлічальнай картцы і адрас;

5) вынікі вырашэньня па скарзе або хадайніцтве з вызначэньнем зьнятай або залічанай сумы падатку.

Нумарацыя пастаноў (картак № 10) вядзецца парадкавая неперарывная з першага нумару. Для гэтага трэба весьці на асобным лісьце падлік нумароў скарг і хадайніцтваў. У канцы дня на лісьце запісваецца апошні нумар паступіўшай скаргі або хадайніцтва.

§ 45. Пасьля запаўненьня верхняй часткі блянку ф. № 10 і зьместу заявы, блянк ф. № 10 разам з заявай платніка кладзецца ў папку „Неразгледжаных заяў".

§ 46. Пры разглядзе заяў платнікаў у пастановах (якія запаўняюцца пад капірку) паказваюцца:

1) падрабязныя матывы прыняцьця пастановы;

2) сума зьнятага акладу, залічанай пераплаты або зьнятай нядоімкі;

3) год, месяц і дзень разгляду заявы платніка.

Прыклад запаўненьня пастановы ф. № 10.

| Заява паступіла 25-га жніўня 1930 г. № 69. | Пастанова Самахвалав. раённай камісіі па сельгаспадатку. | Заява разгледжана раён. пад. камісіяй 30-га жніўня 1930 г., пратакол № 4. |
|---|---|---|

Хадайніцтва грам. Апанасюка Хведара Іванава, картка №
скарга (прозьвішча, імя і імя па бацьку)
(па сельсьпісу) № 49 паселішча Кацягі сельсавету Гатаўскага.

Зьмест скаргі (або хадайніцтва): аб дачы скідкі з прычыны падзяжу ўлічанай каровы.

| Пастанова Самахвалав. камісіі. | Зьнята, залічана | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Нядоімкі | Акладу | Пені | Штрафу |
| Бяручы пад увагу адсутнасьць іншай жывёлы, апроч паўшай каровы, і адсутнасьць у гаспадарцы працаздольных—даць скідку па сельска-гаспадарчым падатку паводле § ...... інструкцыі ў разьмеры 100% акладу ў суме. | | 12 р. 50 к. | | |

Копія пастановы адаслана 31-га жніўня 1930 г.

Старшыня (подпіс) Сакратар (подпіс)

Пастановы падпісваюцца старшынёй і сакратаром камісіі.

§ 47. Пасьля пасяджэньня складаецца пратакол па наступнай форме:

Пратакол № ......

пасяджэньня ...... раённай камісіі па сельгаспадатку „ ...... " ...... 19 ...... г.

Прысутнічалі: т. т. ......

Разгледжаны на пасяджэньні і прыняты пастановы па ...... скаргах і хадайніцтвах з № ...... па № ......

Подпісы ўдзельнікаў камісіі.

§ 48. Пасьля подпісу пратаколу, другія экзэмпляры пастаноў ф. № 10 пасылаюцца платнікам (праз адпаведныя сельсаветы).

Пратаколы разам з пастановамі і заявамі платнікаў захоўваюцца па меры іх паступленьня.

§ 49. Калі платнік не здаволен пастановай раённай падатковай камісіі і скардзіцца ў акруговую камісію па пастанове ф. № 10 (адваротная старонка), то робяцца адзнакі аб часе падачы скаргі і рашэньні акруговай камісіі.

§ 50. Справаздачнасьць па скаргах і хадайніцтвах складаецца па ф. № 5, якая паказана ў інструкцыі НКФ СССР пра с.-г. падатак на 1930-31 г. (стар. 93) і падаецца 2 разы ў год: на 1 лістапада і на 1 сакавіка. Справаздача па ф. № 5 складаецца на падставе пастаноў ф. № 10, якія разьбіваюцца па відах скаргаў і хадайніцтваў.

У справаздачы па ф. № 5 паказваюцца вынікі разгляду скаргаў і хадайніцтваў як раённымі, так і акруговымі падатковымі камісіямі і раённымі выканаўчымі камітэтамі.

Увага. У другім радку ф. № 5 (дзе льготы чырвонаармейцам і інвалідам) паказваюцца па 2 лічбы: першая датычыць чырвонаармейцаў і інвалідаў, другая—быўшых чырвоных партызанаў.

§ 51. Раённыя выканаўчыя камітэты падаюць справаздачу па ф. № 5 у акруговыя фінансавыя аддзелы: на 1-ае лістапада не пазьней 25-га лістапада і на 1-ае сакавіка—не пазьней 25-га сакавіка.

§ 52. Акруговыя фінаддзелы падаюць справаздачу па ф. № 5 у НКФ БССР: на 1-ае лістапада—не пазьней 10-га сьнежня і на 1-ае сакавіка—не пазьней 10-га красавіка.

### VII. Падлік і справаздача аб мерах спагнаньня.

§ 53. Падлік мер спагнаньня праводзіцца раённымі выканаўчымі камітэтамі на падставе актаў опісу і продажу маемасьці нядоімшчыкаў, пастаноў аб аштрафаваньні, матарыялаў аб прыцягненьні да судовай адказнасьці.

§ 54. На падставе паказаных даных раённыя выканаўчыя камітэты складаюць справаздачу аб мерах спагнаньня па ф. № 6 з вышэйпамянёнай інструкцыі НКФ СССР (стар. 93). Справаздача складаецца два разы ў год: на 1 лістапада і на 1 лютага.

§ 55. Раённыя выканаўчыя камітэты падаюць справаздачу ф. № 6 у акруговыя фінансавыя аддзелы на 1 лістапада—не пазьней 1 сьнежня, а на 1 лютага—не пазьней 1 лютага.

§ 56. Акруговыя фінансавыя аддзелы пасылаюць справаздачу ф. № 6 у НКФ БССР: на 1 лістапада—не пазней 15 сьнежня, на 1 лютага—не пазьней 15 сакавіка.

### VIII. Справаздача аб выніках правядзеньня падатку.

§ 57. Не пазьней 5 мая раённыя выканаўчыя камітэты пасылаюць у акруговыя фінансавыя аддзелы ведамасьць аб выніках правядзеньня адзінага сельска-гаспадарчага падатку на 1930/31 год па ф. № 4 з інструкцыі НКФ СССР. Акруговыя фінансавыя аддзелы пасылаюць гэтую форму ў НКФ БССР не пазьней 20 мая.

Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР *Айзінсон.*

*Кірык.*

16 ліпеня 1930 г.

Дадатак.

## Рэестр паступленьняў сельскагаспадарчага падатку і адкладнога страхаваньня за 1930/31 г.

| №№ па парадку | Прозьвішча платніка, імя і імя па бацьку | Плацяжы па сельгаспадатку | | | | | | Плацяжы па страхаваньню | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | № аладн. ліста | Нядоімка мінул. гадоў | Аклад бяг. году | Пеня | Усяго | Апрача таго залічана пераплат | № страхавога паведамленьня | Нядоімка мінул. гадоў | Аклад бяг. году | Пеня | Усяго | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | |

# Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

## Паст. 145. Пра арганізацыю і пастаноўку супроцьпажарнай справы ў сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі.

1. Для ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па папярэджаньні і ліквідацыі пажараў у кожным калгасе і саўгасе павінна быць арганізавана пажарная дружына з членаў калгасу або рабочых саўгасу ў адпаведнасьці з тыповым статутам для адпаведных пажарных арганізацый.

У склад калгасаўскіх і саўгасаўскіх дружын можа ўваходзіць таксама навакольнае насельніцтва індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

2. Усёй работай і дзейнасьцю пажарнай дружыны кіруе яе начальнік паводле тыповага статуту, які ў пажарна-тэхнічных адносінах карыстаецца дырэктывамі дзяржаўных органаў пажарнага нагляду.

3. Начальнік пажарнай дружыны, апроч паказанага ў арт. 2, абавязаны:

а) сачыць за правільным расплянаваньнем пры пабудове новых жылых, гаспадарчых і вытворчых будынкаў і за захаваньнем пры гэтым вызначаных супроцьпажарных мерапрыемстваў у адпаведнасьці з існуючымі законамі;

б) прымаць удзел у вызначэньні месца для ўстаноўкі мэханічных рухавікоў, хаваньня сельскагаспадарчых прадуктаў і розных матарыялаў;

в) мець нагляд праз актыў дружыны за ўсімі небясьпечнымі ў пажарных адносінах месцамі, работамі і інш., (печы, коміны, разьвядзеньне вогнішчаў, работе рухавікоў, малацьба, кіно-перасоўкі і г. д.);

г) прыняць захады да забясьпечаньня вадой на выпадак пажару;

д) сваечасова ставіць пытаньні перад праўленьнем калгасу або адміністрацыяй саўгасу па належнасьці аб неабходных супроцьпажарных мерапрыемствах і ліквідацыі пагражаючых у пажарных адносінах недахопаў.

4. Начальнікі пажарных дружын па меры сапраўднай патрэбы, па ўзгадненьні з праўленьнямі калгасаў або адміністрацыяй саўгасаў па належнасьці, могуць вызваляцца ад гаспадарчых работ з захаваньнем зарплаты па табелях для правядзеньня тых або іншых мерапрыемстваў па пажарнай справе.

Кожная калгасная або саўгасная гаспадарка павінна быць забясьпечана прыладамі пажаратушэньня, колькасьць і характар якіх вызначаецца ў залежнасьці ад характару і разьмераў гаспадаркі па ўзгадненьні з прадстаўніком пажарнага дзяржаўнага нагляду.

Мінімальнае абсталяваньне пажарнай дружыны павінна складацца з аднае ручной пажарнай помпы на калёсным ходу коннай або ручной цягі з 2 заборнымі і 2 выкіднымі рукавамі, 3-х бочак на калёсным ходу коннай ці ручной цягі з вёдрамі пры іх і 1 багорнага ходу, абсталяванага 2 драбінамі, 1 гідрапультам, 3 баграмі, 3 сякерамі, 2 ламамі, 2 лапатамі, 1 вяроўкаю, 1 ламавым крукам і 1 ліхтаром.

6. Пажарны інвэнтар зьяўляецца маемасьцю гаспадаркі і знаходзіцца ў распараджэньні пажарнай дружыны. Пажарны абоз і ўсе прылады пажаратушэньня павінны ўтрымоўвацца ў поўнай спраўнасьці, чыстаце і сталай гатоўнасьці да работы пад асабістай адказнасьцю начальніка дружыны. Скарыстаньне пажарнага інвэнтару на гаспадарчыя патрэбы не дазваляецца.

7. Для вывазу пажарнага абозу на пажары, трывогі і для заняткаў пажарная дружына карыстаецца гаспадарчымі коньмі калгасаў або саўгасаў па належнасьці. У начны і непрацоўны час пры пажарным дэпо ставяцца дзяжурныя коні.

8. Для хаваньня пажарнага абозу і прылад і для правядзеньня арганізацыйнай работы пажарнай дружыне павінна быць прадстаўлена адпаведнае памяшканьне, пабудаванае з агнятрывалых матарыялаў, альбо драўлянае, якому надаецца агнятрываласьць.

9. У начны час павінен дзяжурыць сталы стораж, на якога і ўскладаецца адказнасьць за пажарную ахову.

10. У правілы ўнутранага парадку калгасаў і саўгасаў павінны быць унесены пункты па супроцьпажарных мерапрыемствах. У паасобку, павінны быць вызначаны месцы, дзе забараняецца курыць, разводзіць агонь і г. д. (аборы, амбары, канюшні, стагі, памяшканьні грамадзкага прызначэньня і інш.). У вызначаных месцах павінна быць вывешаны адпаведныя надпісы або плякаты.

11. Кожная каляктыўная і савецкая гаспадарка павінна быць забясьпечана патрэбнай колькасьцю вады для тушэньнія пажараў, для чаго ў залежнасьці ад мясцовых умоў павінны быць прыстасаваны пад'езды да рэк або іншых маючыхся паблізу вадакрыніц, штучныя саджалкі, студні, бакі з вадою і г. д. з такім разьлікам, каб запасу вады хапіла ня менш, чым на дзьве гадзіны работы маючагася ў данай гаспадарцы пажарнага фонду.

12. Для апавяшчэньня аб пажары і для хуткага склікаhьня дружыньнікаў і ўсіх рабочых саўгасу і калгасьнікаў, павінна быць прыстасавана адпаведная прылада гукавай сыгналізацыі: звон, сірэна або інш.

13. Пры выезьдзе на пажары за межы данай гаспадаркі на месцы павінна быць пакінута частка пажарнага абозу і дружыньнікаў.

14. Кіраўніцтва і інструктаваньне пажарных дружын у калгасах і саўгасах ускладаецца на вучастковых пажарных інструктароў пад кіраўніцтвам акругорых пажарных інспэктароў.

15. Выдаткі, зьвязаныя з арганізацыяй супроцьпажарных мерапрыемстваў і ўтрыманьнем пажарнай аховы ў калгасах і саўгасах, пакрываюцца з гаспадарчых сум кожнай паасобнай гаспадаркі або іх аб'яднаньняў. У выдатках па ўтрыманьні пажарнай аховы ўдзельнічае таксама навакольнае насельніцтва, якое знаходзіцца ў раёне дзейнасьці данай пажарнай дружыны. Пры складаньні каштарысаў на 1930/31 год і ў далейшым павінны быць прадугледжаны адпаведныя выдаткі на пажарную ахову.

16. Адказнасьць за арганізацыю пажарнай аховы і за супроцьпажарнае становішча кожнай паасобнай гаспадаркі ўскладаецца на праўленьні калгасаў і адміністрацыю саўгасаў. Агульная адказнасьць за становішча пажарнай аховы ў калгаснай і саўгаснай сыстэме ўскладаецца на калгассаюзы і сельскагаспадарчыя трэсты.

17. Нагляд за ажыцьцяўленьнем прадугледжаных гэтай інструкцыяй мерапрыемстваў ускладаецца на вучастковых пажарных інструктароў і акруговых пажарных інспэктароў.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Зямляробства БССР *Панiматка.*

Згодна: Сэкратар НКУС БССР *Слупскі.*

3 ліпеня 1930 г.
па НКУС № 57.

Узгодна з НКЮ БССР—
адносьнік за 3/VII-1930 г. № 165.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР.

### Паст. 146. Пра зьмену рэдакцыі арт. арт. 4, 5, 15, 19, 20, 22, і скасаваньне арт. 20 інструкцыі НКУС БССР „Пра ўжываньне прымусовых работ бяз трыманьня пад вартаю“.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў інструкцыі НКУС БССР за 14/VIII-1929 г. „Пра ўжываньне прымусовых работ бяз трыманьня пад вартай“ (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 10).

1. Арт. арт. 4 і 5 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Арт. 4. Суды і адміністрацыйныя ўстановы пасьля ўваходу ў сілу іх пастаноў аб прыцягненьні да прымусовых работ, павінны паведамляць аб сваіх пастановах тым органам, якія праводзяць прымусовыя работы (адміністрацыйныя аддзелы АВК, адмчасткі РВК, сельскія або местачковыя саветы, па належнасьці) па месцы пражываньня прысуджанага, яго маемасным становішчы, узросьце і спэцыяльнасьці, а таксама аб тым, на падставе якіх законаў і на які тэрмін яму прызначаны прымусовыя работы“.

„Арт. 5. Органы, якія праводзяць прымусовы работы, атрымаўшы паведамленьне (арт. 4), бяруць прысуджанага на падлік і калі ёсьць куды паслаць яго на работу, прысуджанаму пасылаецца павестка аб яўцы з дакладным паказаньнем месца і характару работы, а копія павесткі пасылаецца на месца работы.

Прысуджаны, пасьля атрыманьня павесткі, павінен праз 7 дзён зьявіцца ў орган, які яго выклікаў. Дзень яўкі лічыцца першым днём адбываньня прымусовых работ“.

2. Абзац 2-гі арт. 19 дзейнічаючай інструкцыі запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Калі прысуджаны прыдзе на работу з канём і павозкай альбо з канём і неабходнымі для работы прыладамі, напрыклад: плугам, бараной і іншым неабходным для работы інвэнтаром, то орган, які праводзіць прымусовыя работы, лічыць дзень яго працы за два дні“.

Арт. 19 дзейнічаючай інструкцыі дапоўніць абзацам 3-ім у наступнай рэдакцыі:

„Пры накіраваньні асуджаных да прымусовых работ бяз трыманьня пад вартай для выкананьня гэтых работ павінна ўлічвацца фізычная прыгоднасьць асуджаных і іх кваліфікацыя“.

3. Арт. 20 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Арт. 20. Асобы, якія адбываюць прымусовыя работы бяз трыманьня пад вартай, атрымліваюць за час адбываньня імі прымусовых работ грашмі альбо натураю дзяржаўны мінімум заработнае платы ў данай мясцовасьці, які ў залежнасьці ад матарыяльнага становішча асуджанага і за добрае выкананьне работы можа павялічвацца органам, які праводзіць прымусовыя работы, да 50% іх фактычнага заработку за выкананую работу.

Рэшта заработнай платы перадаецца ў мясцовы бюджэт“.

4. Арт. 22 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Арт. 22. Перапынак і адтэрміноўка ў адбываньні прымусовых работ павінны быць:

а) у час хваробы;

б) у час цяжарнасьці—за 2 месяцы да радоў і на працягу 2-х месяцоў пасьля радоў і

в) водпускі могуць давацца і па іншых прычынах (цяжкая хвароба членаў сям'і, сьмерць члена сям'і і г. д.).

Усе гэтыя водпускі ў тэрмін адбываньня прымусовых работ не залічваюцца.

У іншых выпадках, калі трэба адтэрмінаваць прымусовыя работы ня менш як на 2 месяцы (для курсантаў, вучняў, студэнтаў да канца навучаньня і г. д.), пытаньне аб гэтым вырашаецца судом, які вынес прысуд. Бягучыя кароткатэрміновыя перапынкі і адтэрміноўкі да 2-х месяцаў робяцца беспасрэдна тым органам, які праводзіць прымусовыя работы".

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

19 ліпеня 1930 г.
№ 60.




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня БАН. Зак. № 3034. 13 стар. Тыраж 5000 экз. Галоўлітбел № 1572.

Цана 15 кап.

ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА
НА
ПЭРЫАДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

на 2 паўгодзьдзе 1930 г.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Мастацкая ілюстраваная 2-х тыднёвая часопісь.

| на 1 мес. | 3 мес. | 6 мес. | 1 г. |
|---|---|---|---|
| 30 к. | 75 к. | 1р. 50 к. | 3 р. |

# ПОЛЫМЯ

Штомесячная часопісь літаратуры, палітыкі, эканомікі і крытыкі.

| на 1 мес. | 3 мес. | 6 мес. | 1 г. |
|---|---|---|---|
| 1 р. | 3 р. | 5 р. | 10 р. |

ГАДАВЫМ ПАДПІШЧЫКАМ НА „ПОЛЫМЯ“ ДАЕЦЦА РАСТЭРМІНОЎКА:
Пры падпісцы—4 р., 1-га верасьня—3 р., 1-га лістапада—3 р.

ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:
Бюро падпіскі БДВ г. Менск, Ленінская, 19, тэл. 17-12.
Цэнтр. кнігарня „ „ 95.
Усе акруговыя аддз. БДВ.
Газэтнае Бюро.
Аддзел падпіскі ГИЗАа РСФСР і ўсе ўпаўнаважаныя БДВ, маючыя адпаведныя пасьведчаньні.

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.